**Внимание! Программа телевидения на каналах: БТ, ОРТ, Россия, Культура, НТВ, ТВ-6, ТВ-Цэнтр, АСТ**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 5 (86). 28 студзеня — 3 лютага 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт свабодны

## ПІКЕТ АДБЫЎСЯ КАЛЯ ТАНКА

**У суботу, 23 студзеня, у Слоніме ўсё ж адбыўся пікет у абарону незалежнасці Беларусі і супраць збяднення народа, хаця мясцовы гарвыканкам адмовіў у дазволе Радзе Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" на яго правядзенне.**

У гэты дзень у 12 гадзін у скверы на Першамайскай вуліцы сабралася болей дзесяці ўдзельнікаў пікету, якія трымалі плакаты. Адносіны слонімцаў да пікетоўшчыкаў былі неадназначнымі: адныя іх падтрымлівалі, а іншыя асуджалі (некаторыя даволі агрэсіўна).



У 12.50 да пікета падышоў дзяжурны па РАУС маёр міліцыі, які здолеў пераканаць франтаўцаў спыніць забароненае ўладамі мерапрыемства.

Старшыня Слонімскай Рады БНФ Іван Бедка патлумачыў ігнараванне франтаўцамі рашэння гарадскіх уладаў тым, што гарвыканкам сам парушыў Канстытуцыю і заканадаўства Беларусі. Напрыклад, адказ пра забарону пікета Рада БНФ атрымала толькі за чатыры дні да правядзення мерапрыемства (а не за пяць, як патрабуе закон).

У гэты дзень у Беларусі прайшло каля сямідзесяці пікетаванняў. Яны адбыліся ў Мінску, ва ўсіх абласных гарадах, а таксама ў Бабруйску, Баранавічах, Ганцавічах, Наваполацку, Пінску, Мастах, Лідзе і іншых гарадах.

**P.S.** 26 студзеня старшыня Рады БНФ Іван Бедка быў выкліканы ў міліцыю, адкуль яго адвезлі ў суд. Па словах старшыні Слонімскага суда Міхаіла Мядзведзя, ён вынес І.Бедку папярэджанне.

**Сяргей ЁРШ**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

## У школе шукалі міну...

**Раніцай 26 студзеня спыніліся заняткі ў слонімскай сярэдняй школе №2, а вучні і настаўнікі былі тэрмінова эвакуіраваны.**

Прычынай гэтаму стаў чарговы тэлефонны званок невядомага, які паведаміў пра замініраванне, на гэты раз, школы.

Тэрыторыя школы была ачэплена міліцыяй. Туды прыбылі супрацоўнікі КДБ і пажарныя. На месца здарэння прыехаў старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын. Будынак абследавалі сапёры, але выбуховага прыстасавання не знайшлі.

**Сяргей ЁРШ**

## Праезд падаражэе

**Як паведаміла карэспандэнту "ГС" намеснік дырэктара аўтобуснага парка №3 г. Слоніма Валянціна Жук, з 1 лютага падаражэе праезд у гарадскім транспарце.**

Кошт білета з трох тысяч рублёў павялічыцца да чатырох, а месячны праязны білет будзе каштаваць ужо 170 тысяч рублёў, для школьнікаў – 85 тысяч.

Адначасова Валянціна Жук адзначыла, што з 15 лютага да 31 сакавіка слонімскі аўтапарк на маршруце Слонім – Гродна правядзе эксперымент па аплаце праезду. Ён прадугледжвае прапарцыянальнае зніжэнне кошту праезду з павелічэннем адлегласці. Да 50 км скідак не будзе, з 51 км да 75 км скідка складзе 5 %, а з 251 км да 300 км да 40%. Напрыклад, калі цяпер білет да Гродна каштуе 166.600 рублёў, то з 15 лютага – 134.900 рублёў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Грядет амнистия

**Вступил в силу Закон Республики Беларусь «Об амнистии...".**

Согласно закону, освобождению из мест лишения свободы подлежат осужденные и лица, находящиеся под следствием, совершившие преступления по неосторожности, а также преступления, не представляющие большой общественной опасности.

Под эту категорию подпадают участники Великой Отечественной и афганской войны, инвалиды, беременные женщины, а также несовершеннолетние. По данным Министерства внутренних дел, в результате амнистии на свободу выйдут около 8.300 осужденных, или 10-12% от их общего числа. Всего же в Беларуси в местах лишения свободы находится около 61 тысячи человек при лимите в 41,5 тысячи.

**БелаПАН**

**НАВІНЫ**

## Баставалі прадпрымальнікі

**27 студзеня ў Беларусі адбыўся агульнарэспубліканскі страйк прадпрымальнікаў і прыватных гандляроў.**

У гэты дзень большасць рынкаў у рэспубліцы, у тым ліку і ў Слоніме, не працавалі. Такім чынам прафсаюз прадпрымальнікаў выказаў пратэст супраць эканамічнага ціску на іх з боку дзяржавы.

**Тамара ЁРШ**

## Мяняюцца старшыні

**На сходзе працаўнікоў калгаса імя Леніна ад пасады старшыні па ўласнай просьбе вызвалены Генадзь Красачка.**

Новым старшынёй выбраны Карл Svіб, які ў апошні час працаваў галоўным аграномам райсельгасупраўлення.

Сам Генадзь Мар'янавіч карэспандэнту "ГС" паведаміў, што зараз ён знаходзіцца ў чарговым водпуску і дзе будзе працаваць далей, пакуль не ведае. Крыху раней ад пасады старшыні калгаса "Чырвоная зорка" па ўласнай просьбе быў вызвалены Уладзімір Койпаш.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗДАРЭННІ**

## Пляменніца абакрала цётку

**Па падазрэнню ў крадзяжы міліцыяй была затрымана настаўніца пачатковых класаў адной з сельскіх школ Слонімскага раёна.**

Здарылася гэта тады, калі настаўніца прыйшла ў госці да сваячкі, якая жыве ў горадзе на Вішнёвым завулку. Пасля добрага пачастунку, калі госця пакінула хату, гаспадыня не знайшла на звычайным месцы 900 тысяч рублёў.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

## Цана легкадумства

**Слонімскі прыватны прадпрымальнік М., пакінуў на ноч "Мерседэс" каля свайго дома на вуліцы Касаўскі тракт.**

Невядомыя залезлі ў іншамарку і скралі 2 акумулятары, 11 аўтапакрышак і 5 каністраў з аўтамабільным маслам.

## Пацягнула на салодкае

**Днямі ў міліцыю пазванілі з калгаса "1 Мая" і паведамілі, што ў перыяд з 23 па 25 студзеня невядомыя зламалі дзверы і краты ў складзе вёскі Ягнешчыцы.**

Адтуль яны ўкралі каля паўтоны цукру.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЖЫВУЦЬ ЖА ЛЮДЗІ**

## ПАЛАЦЫ ДЛЯ НАЧАЛЬСТВА

**Міністэрства ўнутраных спраў даручыла Гродзенскаму ўпраўленню міліцыі "разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці знаходжання на службе начальніка Зэльвенскага РАУС Максімава С.І. за допушчаныя парушэнні пры будаўніцтве асабістага дома".**

Падставай для гэтага стаў катэдж, які быў пабудаваны для Максімава за кошт грошай з рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў.

У ходзе праверкі камітэт дзяржаўнага кантролю па Гродзенскай вобласці выявіў "незаконнае выкарыстанне бюджэтных сродкаў у частцы неабаснаваных затрат па стварэнню больш камфартабельных жыллёвых умоў, якія былі дапушчаны пры будаўніцтве дома". Падобныя парушэнні былі таксама выяўлены і падчас будаўніцтва катэджа для старшыні Зэльвенскага райвыканкама В.Будрэвіча. Аднак, калі пасля праверкі кантралёраў Будрэвіч спыніў будаўніцтва сваёй "хаткі", то начальнік міліцыі Максімаў у сваёй ужо справіў наваселле.

На першы погляд здаецца, каго сёння здзівіш палацамі? І не такія будуюць. Але, калі начальнік узводзіць сабе шыкоўную хату за падаткі людзей, а тым часам тыя ж самыя людзі не могуць дачакацца, калі для іх, нарэшце, у Зэльве пабудуюць паліклініку, – у гэтым выпадку міжволі ўзнікае пытанне: пра каго і пра што больш клапоціцца кіраўніцтва?

**Іван ЦІМАФЕЙЧЫК**


Катэдж начальніка Зэльвенскай міліцыі С.Максімава


МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ Республики Беларусь

Служба собственной безопасности

«18» января 1999 г. №27\18

Тимофейчику И.М.

231936
д. Мадейки
Зельвенского района
Гродненской области

Уважаемый Иван Михайлович !

Ваше заявление МВД Беларуси рассмотрено.

Руководству УВД Гродненского облисполкома поручено рассмотреть вопрос о целесообразности пребывания на службе начальника Зельвенского РОВД Максимова С.И. за допущенные нраушения при строительстве личного дома.

И.о.начальника ССБ МВД Беларуси Л.П.Доронценок


Зэльвенскі "даўгабуд" — паліклініка

# ПЕДЫКУЛЁЗ — ХВАРОБА САЦЫЯЛЬНАЯ

**Летась у Слоніме і раёне зафіксавана 96 выпадкаў захворвання на педыкулёз (вашывасць).**

Статыстычныя дадзеныя па гэтай хваробе па сацыяльных групах выглядаюць наступным чынам (лічбы даюцца ў параўнанні з 1997г.): сярод рабочых 4 (3), калгаснікаў 6 (17), у дашкольных дзіцячых установах (не выяўлена), сярод неарганізаваных дзяцей 5 (13), сярод школьнікаў 26 (46), сярод іншай катэгорыі грамадзян 55 чалавек (17). Многа гэта ці мала?

Па словах намесніка галоўнага ўрача Слонімскай санэпідэмстанцыі Анатоля Цепіна, у працэнтных адносінах Слонімшчына не перавысіла сярэдні паказчык захворванняў на педыкулёз па Гродзенскай вобласці. Ён адзначыў, што санітарна-эпідэміялагічная служба вядзе кантроль за медыцынскім абследаваннем насельніцтва на педыкулёз, а ў выпадку выяўлення хваробы праводзіць мерапрыемствы па яе лакалізацыі.

З аналізу лічбаў вынікае наступнае. 36 чалавек захварэўшых "на вошы" у раёне паходзяць з сацыяльна-неўладкаваных сем'яў. Нізкі ўзровень жыцця, п'янства, абыякавасць да ўласнага здароўя і здароўя сваіх дзяцей — самы спрыяльны асяродак для ўзнікнення хваробы. Часцей хварэюць дзеці ва ўзросце 7-14 гадоў (26 выпадкаў у 1998 годзе) і людзі ад 40 да 60-ці гадоў і старэй (21 выпадак).

У народзе гавораць: не думай многа — вошы завядуцца. На самай справе — валасяны педыкулёз ніякім чынам не залежыць ад эмацыянальнага стану чалавека. Як сказаў Анатоль Цепін, педыкулёз — хвароба сацыяльная. Пры гэтым ён адзначыў, што для чалавека сацыяльна-адаптаванага асаблівай небяспекі гэта хвароба не ўяўляе. Па-першае, той, хто выконвае правілы асабістай гігіены менш падвержаны захворванню. Галоўная зброя супраць вошай — вада, якая пры тэмпературы +60 градусаў па Цэльсію забівае паразітаў. А лазня з парылкай — найлепшая прафілактыка педыкулёзу.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## Другое месца ў вобласці

Па выніках службовай дзейнасці гаррайаддзелаў міліцыі вобласці за 1998 год Слонімскі ГРАУС заняў другое месца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Ёсць таленты

**У Мастах падведзены вынікі конкурсу "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...", што быў абвешчаны таварыствам беларускай мовы.**

Сярод іншых ільготную пуцёўку на адпачынак і вучобу тэрмінам на два месяцы ў лагер "Зубраня" заваявала вучаніца А.Апалонава з вёскі Малыя Азёркі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Вяскоўцы мыюцца ў балеях

**У калгасе "Новае жыццё" Дзятлаўскага раёна каля двух гадоў не працуе лазня. Раней былі дзве, а цяпер — ніводнай.**

Хто жыве ў катэджах, маюць ванны, а астатнія карыстаюцца старым дзедаўскім спосабам — мыюцца ў ночвах і балеях...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Фильм о матери Лукашенко

Кинодокументалисты «Белвидеоцентра» приступили к съемкам фильма о Екатерине Трофимовне Лукашенко — матери президента Беларуси.

**БелаПАН**

## Как пенсионеру прожить еще 20 лет?

**«Пока заработная плата не будет соответствовать минимальному потребительскому бюджету, говорить о том, что мы резко поменяем пенсионное обеспечение, социальную защиту, не приходится», — считает министр социальной защиты Ольга Даргель.**

Она отметила, что ведется необходимое реформирование системы пенсионного обеспечения, в ходе которого размер пенсий будет дифференцирован в зависимости от трудовой биографии. Для последующих преобразований, по словам Ольги Даргель, необходима стабильность в экономике, но даже в этом случае реформирование потребует не менее 15-20 лет.

УСТАЦЬ! СУД ІДЗЕ

# ЁН БЭНЭЭФАВЕЦ, ЗАСУДЗІЦЕ ЯГО

**На мінулым тыдні Гродзенскі абласны суд разгледзеў касацыйную скаргу жыхаркі Мастоў Віты Эйсмант на рашэнне Мастоўскага раённага суда.**

Гэта было пятае судовае пасяджэнне па іску ветработніцы Віты Эйсмант да рэдактара незарэгістраванай газеты "Мастоўскі веснік" Язэпа Палубяткі. Цяжба па гэтай справе цягнулася болей за паўгода.

А пачалася яна 13 красавіка 1998 года, калі ў газеце "Мастоўскі веснік" быў надрукаваны артыкул пад назвай "Царыца калгаснага рынку". У ім ішла размова пра канфлікт паміж ветработніцай В.Эйсмант і пенсіянерам з вёскі Боркі Л.Мандзікам, які на ветэрынарны агляд прадставіў свіную тушку, парубленую на болей кавалкаў, чым таго прадугледжваюць ветэрынарныя правілы. Таму Эйсмант адмовілася клеймаваць мяса. Але вясковец павёз прадаваць мяса на рынак. Узнік канфлікт, у якім прынялі ўдзел нават старшыня райвыканкама Аляксандр Кісялёў і начальнік міліцыі Мечыслаў Улан. Пра гэта і было напісана ў газеце. Віта Эйсмант палічыла, што "МВ" зганьбіла яе гонар і годнасць, таму звярнулася ў суд з іскам да рэдактара газеты. Яна запатрабавала апраўвяржэнне і грашовае спагнанне ў памеры 20 мільёнаў рублёў. Першы склад суда на чале з суддзёй Герасімчыкам прызнаў яе іск справядлівым і прысудзіў Я.Палубятку штраф у памеры пяці мільёнаў рублёў на карысць ісціцы. Рэдактар Палубятка не пагадзіўся з рашэннем суда і накіраваў касацыйную скаргу ў абласны суд, які адмяніў рашэнне і накіраваў справу на перагляд у новым складзе суда.

Судовае пасяджэнне, разглядзеўшы дэталёва ўсе акалічнасці справы, прызнала іск Эйсмант да аўтара артыкула неабгрунтаваным і адхіліла яго.

Эйсмант палічыла такое рашэнне суда несправядлівым і падала касацыйную скаргу ў абласны суд, дзе яна ў якасці асноўных довадаў, каб пакараць рэдактара газеты, заявіла: "Ён — бэнээфавец, крытыкуе раённае кіраўніцтва, непаважліва ставіцца да прэзідэнта Лукашэнкі".

Аднак абласны суд не прыняў гэта пад увагу і зацвердзіў рашэнне раённага суда на карысць Палубяткі без права абскарджвання.

**Іван МІЛАСНІЦКІ**



**Гэта жанчына просіць у людзей грашовай дапамогі на лячэнне хлопчыка. Яе наш фотакарэспандэнт сфатаграфаваў у цэнтры Слоніма. І дзіўна, што грошы ёй падаюць часцей за ўсіх дзеці, а вось дарослыя неяк моўчкі праходзяць міма.**

**Фота Мікалая СУПРУНА**

## Апранаем расіян

**Два гады запар Зэльвенская трыкатажная фабрыка няўхільна кацілася ўніз па ўсіх эканамічных паказчыках.**

Зразумеўшы, што гэта канец, яе дырэктар Віктар Шлык падаўся летась шукаць рынкі збыту ў Расію. Зараз фабрыка камплектуе партыю тавараў: кофты, спадніцы, рэйтузы, дзіцячае адзенне на суму два мільярды рублёў для жыхароў Краснаярскага краю. Расіяне разлічваюцца за прадукцыю своечасова, што дазваляе выдаваць у тэрмін зарплату, хаця і невялікую.

**Антон РАЧОК**

## Калгасная валюта — мука і цукар

**Фінансавы стан некаторых калгасаў Мастоўшчыны не дазваляе разлічыцца за электраэнергію, газ, тэлефон і іншыя паслугі.**

Каб хоць неяк скараціць запазычанасць, гаспадаркі раёна вымушаны аплочваць даўгі натурай: цукрам, мукой, збожжам. На такія бартарныя здзелкі ахвотна ідуць у раённым вузле электрасувязі, бо інакш вырашыць пытанне з запазычанасцямі немагчыма.

Увосень жадаючыя маглі набыць калгасы ячмень. А нядаўна кожнаму сувязісту дасталося па пяць кілаграмаў цукру.

**Антон МАКЕЙ**

## Армейская отара — 200 овец

**Сейчас в подсобных хозяйствах белорусской армии содержатся 950 голов крупного рогатого скота, 4.500 свиней, 200 овец, 1.680 кур.**

По словам начальника тыла армии генерал-майора Александра Христофорова, сегодня продовольственный паек одного солдата стоит 116 тысяч рублей в сутки на человека, что составляет до 2 триллионов рублей в год на весь рядовой состав.

**БелаПАН**

## Вучань года

**Пад такой назвай у Яварскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна прайшоў конкурс, які доўжыўся два дні і меў пяць этапаў.**

Дзеці павінны былі прадэманстраваць свае інтэлектуальныя і творчыя здольнасці, захапленні, праявіць выдумку. У конкурсе ўдзельнічала 13 чалавек. Сярод малодшых школьнікаў вучнем года прызнаны шасцікласнік Сяргей Герасімовіч, а сярод старэйшых — дзесяцікласнік Міхаіл Лук'янчык.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Прайшла канферэнцыя

**У Слонімскім доме афіцэраў адбылася чарговая канферэнцыя Асацыяцыі воінаў-інтэрнацыяналістаў Слоніма і раёна.**

Былі выбраны тры дэлегаты на рэспубліканскую канферэнцыю арганізацыі. Мяркуецца, што ў лютым "афганцы" атрымаюць юбілейны медаль "У памяць 10-годдзя вываду савецкіх войск з Афганістана". Але гэта ўзнагарода мусіць быць зацверджана прэзідэнтам Беларусі. Падчас канферэнцыі працавалі дзве выставы, якія арганізавалі слонімскія краязнаўцы Міхаіл Рылко і Міхаіл Харчанка.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ

## Святло каштуе грошай

**За мінулы год калгасы і саўгасы Зэльвеншчыны запазычылі за электраэнергію амаль 49 мільярдаў рублёў.**

З гэтай сумы амаль трэць доўгу (13,5 млрд.руб.) прыпадае на калгас "Перамога".

**Антон РАЧОК**

## У дапамогу дзецям і інвалідам

**За мінулы год у Дзятлаўскае раённае аддзяленне Беларускага фонду міру паступіла 162 мільёны рублёў, што складае 12% ад агульных абласных паступленняў.**

Значная колькасць гэтых сродкаў пайшла на лячэнне дзяцей і на матэрыяльную дапамогу сем'ям, дзе ёсць інваліды.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 27 студзеня 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз.
Заказ №215

# ЯК ВУЧАЦЬ У ПОЛЬСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

**Каля дзесяці былых вучняў гарадскіх школ Слоніма сёння вучацца ў навучальных установах Польшчы. Карэспандэнт "ГС" сустрэўся са студэнтам першага курса Варшаўскага політэхнічнага ўніверсітэта Аляксандрам Харытончыкам (выпускнік СШ №1) і папрасіў яго расказаць пра вучобу ў Польшчы.**

***— Аляксандр, што ўяўляе сабой універсітэт, у якім ты вучышся?***

— Гэта адна з самых прэстыжных навучальных устаноў Польшчы. Тут займаюцца больш як дваццаць тысяч студэнтаў з усіх краін свету. Летась мне пашчасціла і я паспяхова здаў уступныя экзамены, бо яшчэ з 4-га класа стаў вывучаць польскую мову. Заняткі пачаліся 1 кастрычніка. Усё, як і ў любой навучальнай установе: лекцыі, семінары, залікі, экзамены. Скідкі на недасканалае валоданне польскай мовай не робяцца. Патрабаванні аднолькавыя да ўсіх: калі ты паступіў на вучобу, то павінен добра валодаць польскай мовай. Адрозненне толькі, мусіць, у тым, што студэнт у першым семестры самастойна выбірае сем прадметаў, якія ён будзе вывучаць больш паглыблена. Я, напрыклад, выбраў сабе матэматыку, эканоміку, геаметрыю, інфарматыку, матэрыялазнаўства, замежную мову і фізкультуру. Для замежных студэнтаў па іх жаданню прадастаўлена права на першым курсе замест англійскай ці нямецкай мовы больш паглыблена вывучаць польскую. Па гэтых прадметах даецца больш часу для іх вывучэння.

***— Хто яшчэ са слонімскіх выпускнікоў вучыцца разам з табой?***

— На адным курсе са мной вучацца Андрэй Кукліс і Міхаіл Бяляніс. Мы жывем разам у адным інтэрнаце.

***— Якую спецыяльнасць ты атрымаеш пасля заканчэння вучобы ва ўніверсітэце?***

— Атрымаю дыплом інжынера аўтамабільнага транспарту. Акрамя таго, кожны студэнт можа атрымаць вучоную ступень магістра тэхнічных навук. А тыя, хто праявіць незвычайныя здольнасці ў вывучэнні асобных дысцыплін, могуць вучыцца яшчэ год і абараніць вучоную ступень доктара тэхнічных навук.

***— Усе студэнты маюць шанс атрымаць вучоныя ступені?***

— Ступень магістра навук атрымліваюць практычна ўсе, хто паспяхова заканчвае вучобу. А каму не пашанцуе, то можа застацца вучыцца і яшчэ раз паспрабаваць шчасця. Кожнаму студэнту ствараюць усе ўмовы для паспяховай вучобы. Адлічваюць з універсітэта толькі пасля таго, як чалавек не здасць залік ці экзамен з трэцяга разу. Асобным замежным студэнтам, накшталт мяне, часам дазваляюць здаць экзамен за семестр нават на наступным курсе. Але такіх "хвастоў" за ўвесь час вучобы ў студэнта не павінна быць больш, чым шэсць.

***— А якія існуюць адносіны паміж выкладчыкамі і студэнтамі?***

— Самыя цёплыя. Кожны з іх добра ведае склад сям'і і ўмовы жыцця кожнага студэнта. Акрамя польскіх выкладчыкаў, лекцыі чытаюць вучоныя з многіх краін свету. Існуе правіла: калі ты не можаш па нейкіх прычынах падрыхтавацца да экзамена на пэўны час, то павінен паведаміць аб гэтым выкладчыку, і тэрмін здачы будзе перанесены на больш позні час. Але гэта не азначае, што адносіны паміж студэнтамі і выкладчыкамі панібрацкія. Патрабаванні падчас вучобы вельмі высокія. Але калі рыхтуешся да заняткаў сур'ёзна — праблем няма.

***— Якія ўмовы жыцця студэнтаў універсітэта?***

— Умовы жыцця выдатныя. Жывуць студэнты ў добраўпарадкаваных інтэрнатах па два чалавекі ў пакоі, які нагадвае аднапаёвую кватэру з усімі выгодамі: кухняй, халадзільнікам, тэлевізарам. Праўда, і плата за жыллё па нашых мерках немалая — 200 злотых (1 даляр — 3,5 злотыя). Але маёй стыпендыі памерам у 600 злотых на прыстойнае жыццё хапае.

***— Ці ўсе студэнты атрымліваюць аднолькавую стыпендыю?***

— Не. Па-першае, памер стыпендыі польскіх студэнтаў цалкам залежыць ад памеру заробку іх бацькоў і можа складаць ад 200 да 500 злотых. Замежныя студэнты атрымліваюць такую стыпендыю, якую прызначыць ім іх спонсар альбо ўстанова, якая накіравала іх на вучобу. Мой спонсар, якім з'яўляецца адзін з жыхароў Варшавы, прызначыў мне стыпендыю ў 600 злотых. Некаторыя мае аднакурснікі атрымліваюць па 800 злотых і больш.

***— Як бавяць свой вольны час студэнты?***

— Ва ўніверсітэце створаны выдатныя ўмовы для спартыўных заняткаў, праводзяцца культурныя мерапрыемствы, ёсць мноства залаў для камп'ютэрных гульняў, арганізоўваюцца шматлікія экскурсіі па гістарычных мясцінах Варшавы і іншых гарадоў. Сумаваць не прыходзіцца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ІНФАРМБЮРО

## Піць трэба ў меру

*Нядаўна на вуліцы мяне затрымалі міліцыянеры і даставілі ў выцвярэзнік. Раніцай мне зачыталі пратакол, дзе было запісана, што я быў "у сярэдняй ступені ап'янення". А здаецца, і не вельмі шмат выпіў з сябрам. Скажыце, як вызначаюць ступень ап'янення ў выцвярэзніку?*

**Мікалай С., трактарыст**

У медвыцвярэзнік дастаўляюць грамадзян у сярэдняй і цяжкай ступені ап'янення, калі яны "ганьбяць сваім выглядам чалавечую годнасць і грамадскую маральнасць".

Напрыклад, сярэдняя ступень ап'янення характарызуецца наступнымі адхіленнямі ў паводзінах: "рухі няўпэўненыя", "мова блытаная, з частымі паўтарэннямі аднаго і таго ж слова" і г.д. А калі ў чалавека "пашыраныя зрачкі вачэй, якія вяла рэагуюць на святло", калі "дыханне замаруджанае" і назіраецца "паніжэнне рэакцыі на болевыя і тэмпературныя раздражняльнікі, і сама асоба не можа перамяшчацца", — значыць, гэта цяжкая ступень ап'янення.

Але лепш піць у меру, і вас не будуць турбаваць гэтыя праблемы.

## Таямніцу выдаваць нельга

*Некалькі гадоў назад мы ўсынавілі хлопчыка. Зараз ён вучыцца ў школе. Аднойчы сын прыйшоў дамоў са слязамі на вачах, бо адзін аднакласнік яму сказаў, што мы з мужам — не яго родныя бацькі. А даведаўся той пра гэта ад сваёй маці. Ці можна прыцягнуць да адказнасці тых, хто выдае таямніцу ўсынаўлення?*

**С.М. і М.А., Слонім**

У адпаведнасці з артыкулам 122 Крымінальнага Кодэкса РБ, выдаванне таямніцы ўсынаўлення супраць волі ўсынавіцеля караецца выпраўленчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, штрафам альбо грамадскім ганьбаваннем. Суб'ектам данага злачынства можа быць любая асоба, якой стала вядома таямніца ўсынаўлення. Пры гэтым не мае значэння, каму і пры якіх абставінах чалавек расказаў пра таямніцу. Не мае таксама значэння, з якіх крыніц асоба атрымала інфармацыю, з'яўляюцца ўсыноўлены дарослым чалавекам ці дзіцём на момант, калі яму расказалі пра гэта.

Калі ў вас ёсць важкія доказы ў адносінах да асобы, якая паведаміла пра таямніцу ўсынаўлення, можаце звяртацца з заявай у пракуратуру.

## За вучобу прыйдзецца плаціць

*Мая дачка заканчвае вучобу ў Слонімскім ПТВ-129 па спецыяльнасці краўчыхі. Аднак яна яшчэ хоча атрымаць і дыплом закройшчыцы. Але адміністрацыя вучылішча паведаміла, што за паўторнае навучанне трэба заплаціць грошы. Ці правільна гэта?*

**О.І.Стралкоўская**

У абласным аддзеле адукацыі карэспандэнту "ГС" паведамілі, што згодна "Палажэнню аб прафесійна-тэхнічнай адукацыі" "курсы (групы) паўторнага альбо дадатковага прафесійнага навучання ажыццяўляюцца за кошт сродкаў гэтых грамадзян альбо арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, якія накіравалі іх на вучобу".

**Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

ЗАГЛЯНЕМ У СЯБЕ

# САМА ВІНАВАТА

У народзе існуе выслоўе: не асуджай іншых і нікто не асудзіць цябе. І ўсё ж, як паказвае жыццё, так не атрымліваецца. Людзі асуджаюць п'яніц, гультаёў, злодзеяў, бо іхнія ўчынкі супярэчаць агульным правілам маралі. Але ж асуджаць можна па-рознаму: са злосцю, зларадствам і, асуджаючы,— спачуваць. Я асуджаю жанчыну, пра якую хачу расказаць. Дакладней, асуджаю яе ўчынкі, у той жа час шчыра спагадаю яе горкаму лёсу.

... Спачатку ў Тамары ўсё складвалася так добра. Пасля школы Тамара паступіла ў інстытут, стала настаўніцай. Яе любілі дзеці, паважала начальства і бацькі. Было за што: свой прадмет выкладала так, нібы песню спявала. Сухія лічбы ў яе станавіліся казкай. Умела так правесці ўрок, што ён быў цікавы не толькі тым дзецям, якія ад прыроды здольныя да гэтага прадмета, а тым, каму ён даваўся цяжка.

Вельмі часта мы пераступаем мяжу дазволенага несвядома, нават у страшным сне не прысніўшы, чым гэта потым абернецца. Так і яна. Ці ў вясёлым студэнцкім застоллі, ці ў салідной настаўніцкай кампаніі на якім-небудзь урачыстым вечары яна выпіла сваю першую чарку, — хто ведае. Ну, выпіла і выпіла. Так робяць многія. І не пакутуюць потым ад гэтага ўсё жыццё. А яна, сама таго не ведаючы, пераступіла тады мяжу дазволенага, і неўзабаве для Тамары настаці дні, чарнейшыя за ночы. Спачатку ў школе шушукаліся за спіной, пачуўшы раніцай ад настаўніцы характэрны пах "пасля ўчарашняга", а праз некаторы час і "пасля сягодняшняга", бо алкаголь трэба пахмяляцца.

Аб п'янстве калегі загаварылі ўголас. Яе асуджалі і папракалі, ёй стараліся дапамагчы хто як мог і ўмеў. Нейкі час яе ганебную хваробу калегі хавалі ад вышэйшага начальства. Але ж, як вядома, кашлю, кахання і алкагалізму не схаваеш. У Тамары пачаліся сур'ёзныя непрыемнасці на працы. А праз некаторы час прымусілі наогул развітацца са школай. Трэба зразумець тых, хто прымаў такое рашэнне: настаўнік-алкаголік у школе — гэта дзікунства. Але я разумею і яе. Пазбавіўшыся любімай працы, адчуваючы сябе лішняй, яна яшчэ глыбей апусцілася ў алкагольную багну. Напачатку дапамагала рабіць кантрольныя студэнтам-завочнікам, а потым стомленай галаве і гэта стала не пад сілу.

Пачалося жабрацкае існаванне з пастаяннай праблемай: як пахмяліцца. І вось каля двух гадоў таму назад, даведаўшыся, што земляні закалолі кабана, яна залезла ў чужое памяшканне і ўкрала свініну. Яе затрымалі і ўзялі пад варту.

Праз некаторы час адбыўся суд, які пакараў яе на два гады выпраўленчых работ з утрыманнем 20-ці працэнтаў заробку ў даход дзяржавы.

Пасля лячэння ад алкагалізму, Тамара ўладкавалася паліць печкі ў адной установе. Але па-ранейшаму не пераставала піць, да работы адносілася абы як, у выніку яе звольнілі.

Уладкавалася ў другое месца, мыць бялізну. І тут не прыжылася. На працу прыходзіла пасля пахмелля, а потым і, наогул, тры дні не з'яўлялася. Звольнілі.

Зноў лячылася ад алкагалізму. І зноў лячэнне не пайшло на карысць.

Праваахоўныя органы не раз нагадвалі жанчыне, што яна асуджана і павінна працаваць, і 20 працэнтаў заробку аддаваць дзяржаве. Аднак яна ігнаравала ўсе заўвагі і напамінанні.

І зноў адбыўся суд. Ён змяніў меру пакарання. На гэты раз яна была пазбаўлена волі. Жанчыну накіравалі ў калонію агульнага рэжыму.

Вось такая сумная гісторыя. Можна вінаваціць абставіны, скардзіцца на лёс, але, на вялікі жаль, Тамара сама вінавата, што так усё склалася. У жыцці ёсць выпадкі, калі нікто не можа дапамагчы чалавеку, акрамя яго самога. Гэта невыпраўна цяжка. Нездарма ж нехта разумны сказаў, што самая цяжкая перамога — гэта перамога над сабой.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ, Дзятлава**

ПРАШУ СЛОВА

# ПАДРАХУНАК МІМАХОДЗЬ



Сёлета — як і многія папярэднія гады — мне судзіла доля жыць паводле слоў Маякоўскага: "Попашет — попишет стихи". І хто ведае, дзе я здабыў скутак большы і самы жыццёва патрэбны — за касой, віламі, рыдлёўкай ці за творчым "сцілом" (не сталом!), складаючы радкі ў памяці, запісваючы на хаду, прыхапкам (дзе там да поўнай аддачы прызванню!). Але для мяне гэта таксама як хлеб надзённы. Патрэба душы, іскрынкі духу нябеснага. Рукапісная кніга паэзіі ("Укрыжаванне") даўно вылежваецца ў мінскім выдавецтве. Назбіралася твораў ужо, бадай, на другі зборнік. Аднак гэты від працоўна-творчага выдаткавання сёння аказаўся (і не толькі ў мяне) амаль не запатрабаваным, як і ўся наша нацыянальная культура, мова. Яны сталі б кроўна-жыццёвымі для кожнага беларуса, калі б у грамадстве культываваліся павага і разуменне нашай асновы асноў — нацыянальнай ідэі. А без яе спавядання няма, па сутнасці, і ідэі дзяржаўнай. Аказваецца, усё ўзаемапавязана: хлеб, мова, душа, дзяржаўнасць.

Мае калегі часам дзівуюцца: чаму ў нас, на Беларусі, так няўмольна і здавён спрацоўвае прынцып "цэнтрафугі", адкідаючы на ўзбочыны, перыферыі, пад адхон немалыя патэнцыяльныя таленты мастакоў слова, пэндзля, разца. Ды ўсё па той жа прычыне. Людзям з прытаптанай самасвядомасцю не патрэбны Паэты — у шырокім сэнсе. Хоць у шырокім свеце — гэта не так! Бо няма сапраўднай стваральнасці рук, калі яны абездухоўленыя (без душы і "мазгоў").

Прасветам у мазольнасці працы на вёсцы сталіся сёлета для мяне адведзіны зацікаўленых, сумленных працаўнікаў "масмедыя" — з Масквы, Мінска, Слоніма. Дзялілі агульны хлеб разваг, трывог.

Добра, што свой адметны голас падала адроджаная "Газета Слонімская" — маладая паводле гадоў выдання і такая сталая ўзростам ад існавання. Таму і пажаданне газеце: маладосці няскоранага духу, тэмпераменту, тонусу і ўнутранай сталасці бачання свету, праўды часу, свайго праўдаказання. Каб сацыяльна-пабытавыя напластаванні надзённасці не засланялі і не пахавалі пластоў праблематычных, гістарычных, якімі так багата Слонімшчына (ад Вітаўта, Агінскага, Сапегі да апошніх зломаў народнага лёсу). У недужа спрыяльных умовах такая праца газеты — у імя самасвядомасці сябе. Патэнцыял магчымасцяў ёсць: газету, дзякуй, жывяць і поўняць сутнасным зместам інтэлектуальна развітыя творчыя сілы людзей, праніклівых, мэтаімклівых, мужных і аддавых нашай агульнай кроўна-жыццёвай справе.

**Мікола АРОЧКА, доктар філалагічных навук, вёска Вецявічы.**

